№15(82)
17.05.96

# Беларуская маладзёжная

Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета • Заснавана ў чэрвені 1994 г.



**ЗАПЛАТИТЬ ЗА ЖИЛЬЁ СМОЖЕТ ТОЛЬКО ЛИШЬ ЖУЛЬЁ!**

(стр. 3)

**Все TV программы на неделю**

(стр. 4-5)

## Рэжым на Беларусі працягвае стукатаць паліцэйскай дубінкай, палохаючы свет

14 мая былі затрыманы ў Мінску і дэпартаваны за межы Беларусі Мар'ян Кшаклеўскі, прэзідэнт польскага прафсаюза "Салідарнасць", асістэнт прэзідэнта Яўгеніуш Пальчынскі, Анжэй Адамчык, міжнародны сакратар "Салідарнасці", Войцэк Мячкоўскі, кіроўца.

Лідар "Салідарнасці" і прадстаўнікі вядомага прафсаюза былі запрошаны Свабодным прафсаюзам Беларусі, візіт рыхтаваўся з паўгода, папярэдняя праграма прадугледжвала сустрэчы з рабочымі і прафсаюзнымі актывістамі Мінскага завода аўтаматычных ліній, маторнага, мінскага метрапалітэна, размовы з актывам Беларускага Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў, абмеркаванне шляхоў дапамогі пацярпелым беспрацоўным і "чарнобыльцам".

Але ўжо ля прахадной МЗАЛ прадстаўнікоў "Салідарнасці" і Свабоднага прафсаюза сустрэлі міліцыянты, узброеныя аўтаматамі, "людзі ў цывільным" з кінакамерай. Праход на прадпрыемства быў "зачынены" афіцыйнай паперай з Міністэрства прамысловасці Беларусі, дзе, са спасылкай на распараджэнне прэзідэнта, указвалася: "до внесения изменений в соответствующие законодательные акты(!?) обязаны обеспечить безусловное соблюдение норм Указов Президента, в том числе и Указа от 21.08795 N 336", согласно которому деятельность Свободного профсоюза Беларуси временно приостановлена (!?). Сустрэчу з дэлегацыяй "Салідарнасці" папера прапаноўвала правесці па-за межамі прадпрыемства, што і было зроблена: на школьнай спартпляцоўцы побач з заводам сабралася ў свой абедзены перапынак чалавек 50, пагаварылі.

Па меркаванню старшыні СП Г. Быкава, калі б спыніліся для размовы ля прахадной, прадпрыемства б не працавала — настолькі вялікай была цікаўнасць да лідэра "Салідарнасці".

*(Заканч. на стар.2)*

**Экалагічная вандроўка па Цэнтральнай Еўропе**

(стар. 3)

# Наступил сезон посадки: Ох, и вырастут ребятки!..

# Рэжым на Беларусі працягвае стукатаць паліцэйскай дубінкай, палохаючы свет

(Працяг. Пачатак на стар.1)

**Пасля абеду ў рэстаране "Патсдам" польская дэлегацыя з беларускімі калегамі скіравалася на Плошчу Свабоды ў офіс СП, але ля будынку Акадэміі Музыкі была затрымана 8 дужымі хлопцамі ў цывільным. Тыя, хто затрымліваў, на патрабаванні прад'явіць дакументы і паперы з падставай для затрымання паказалі толькі ліст з надпісам "Міністэрства ўнутраных спраў" — без прозвішчаў, пячатак, фотаздымкаў. Лідар "Салідарнасці" Кшаклеўскі і спадар Адамчык, якія паспрабавалі не зважаць на загад, былі схопленыя за рукі, усю групу уцiснулі ў "пікап".**

**— Дзе пяты паляк? — спытаўся ў В.Буйвала (перакладчык, актывіст СП) кіраўнік "малойцаў". Відаць, выканаўцы бязглуздых загадаў развучыліся працаваць, калі, "пасвячы" прафсаюзнікаў з раніцы, не паспелі дакладна падлічыць колькасць "небяспечных злачынцаў".)**

**Дэлегацыя "Салідарнасці" і В.Буйвал былі прывезены ў РАУС Партызанскага раёна, дзе іх утрымлівалі пяць гадзін. Версіі затрымання высоўваліся розныя: ад "парушэння пашпартнага рэжыму" (пашпарты знаходзіліся, згодна савецкім інструкцыям, у гатэлі, дзе іх павінен пакідаць у "залог" за нумар кожны пражываючы) да "арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу". Тэлефон, па якім з РАУС дазволілі палякам пазваніць у пасольства, дзіўным чынам адразу ж "зламаўся".**

**Польская амбасада ведала пра затрыманне праз 15-20 хвілін пасля здарэння, прыняла ўсе неабходныя меры для вызвалення сваіх грамадзян.**

**Пад пільным вокам невядома якіх "служб" дэлегацыя "Салідарнасці" мела вячэру ў "Планеце", потым была змешчана ў "форды" і пад аховай, але ў прысутнасці польскага консула дэпартавана ў Брэст, пасля — праз мяжу.**

**Польшча ўзрушана здарэннем. Як паведамілі на прэс-канферэнцыі ў штаб-кватэры Свабоднага Прафсаюза Беларусі, сродкі масавай інфармацыі Польшчы надзвычай актыўна сачылі за падзеямі, аператыўна асвятлялі іх. У Беластоку 15 мая ў 14 гадзін прайшла буйная акцыя пратэсту супраць парушэння правоў чалавека на Беларусі, арганізаваная "Салідарнасцю".**

**А лідэраў беларускага Свабоднага Прафсаюза ў гэты ж час дапытваў пад пратакол супрацоўнік Партызанскага РАУС...**

**Чаго чакаць заўтра?**

*Т.Мельнічук, "БМ"*

## Анекдоты ад палітзняволеных

**— Што такое мірная беларуская дэманстрацыя?**

**— Гэта калі украінцы із УНА-УНСО кідаюць камяні ў расейскі АМАП!**

***Ідзе стары па вуліцы і прышэптвае: "Вось дурань дык дурань! " Падбягаюць два АМАПаўца — і хваць старога пад рукі. Стары: - За што вы мяне хлопцы, што я такое зрабіў?***

***АМАПаўцы: — Мы сами хорошо знаем, кто у вас дурак!***

## Аблава ў Баранавічах

Свята Перамогі ў беларускім горадзе Баранавічы было адзначана тым, што мясцовыя міліцыянты, аддаўшы даніну модзе, правялі на сваім участку характэрныя для нашай эпохі чысткі. Прычапіўшыся да групкі маладых людзей, якія, жартуючы, загаманілі па-англельску, стражы парадку адправілі іх у кутузку. Артыкул 156, па якому было прад'яўлена абвінавачванне затрыманым, у віну ставіць дробнае хуліганства. Відаць, можна канстатаваць той факт, што баранавіцкая міліцыя ўзаконіла новы від рэпрэсій — за інтэлектуальнае "хуліганства", прызнаўшы яго, аднак, дробным.

**В.Мамчыц "БМ"**



*У адрозненне ад мінулагодняга, намаганні ўлад наладзіць грандыёзнае шоў з нагоды Дня Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне мелі вельмі сціплы вынік. Удзельнікаў вайны, франтавікоў у калоне ветэранаў было мала. Але і тых адсунулі на задні план новаствораныя генералы з прэзідэнцкага акружэння ды актывісты ПКБ з пенсіянераў Савецкай Арміі і былога партхозактыва. Каб не навучэнцы школ, прыведзеныя настаўнікамі для ўручэння кветак ветэранам, Лукашэнка давялося б шэстваваць па праспекту Скарыны, пераважна "абапіраючыся" на "слупы" ў міліцэйскай форме. Некалі гатовы вітаць яго народ абяцанкам ужо не верыць, а ягоныя прыхільнікі ад ПКБ шэстваваць любяць самі. Пасля ўскладання кветак да помніка Перамогі прэзідэнт па паперцы зачытаў свой чарговы зварот.*

*У чарговы раз было паабяцана адрадзіць Савецкі Саюз (праўда, было адзначана, што толькі частку), "рэканструіраваць" банкі, вытрымаць апошні бой з палітычнымі апанентамі. На гэты раз ужо не гучала клятваў "запусціць" заводы. Не забыў прэзідэнт і хвіліны маўчання па Дудаеву (хоць павінен ведаць, што спачуванне народу Ічкерыі выказалі не толькі Пазьняк, а і парламенты нашых прыбалтыйскіх суседзяў. Ды і ў самой Расіі адносіны да гэтага забойства ўсё больш неадназначныя). Што ж, каму да спадобы чачэнскія крымінальныя аўтарытэты, якіх, як сведчыць былы міністр унутраных спраў Захаранка, прымаюць на дзяржаўных дачах у Крылаве, таму наўрад ці спадабаецца генерал, які не гандляваў сваёй краінай, абараніў яе.*

*Сцвярджэнні Лукашэнкі, што ўсе пралікі ў эканоміцы звязаныя з тым, што прэзідэнту даводзіцца займацца палітыкай, нагадваюць старую байку аб дрэнным танцоры, якому заўсёды нешта перашкаджае.*

*Пад вечар таго ж дня "вызначыўся" і АМАП, напаўшы на групу ветэранаў вайны, якія ўшаноўвалі памяць памёрлых пад нацыянальнымі сцягамі. Канешне, пажылы прафесар Савіцкі з бел-чырвона-белым сцягам — не злодзей і не забойца, здачы не дасць, можна і пагуляць мускуламі.*

*А з новастворанага свята прэзідэнцкага герба і сцяга, чамусці праведзенага за два дні да гадавіны рэферэндума, увогуле атрымаўся пшык. Не дапамаглі і патугі кісельнага тэлебачання. Хіба толькі чарговы указ застаецца выдаць: за непрызнанне прэзідэнцкай сімволікі і прэзідэнцкіх свят караць бязлітасна?!*

***С.ЧЫРЫК, "БМ"***

## За 5 хвілін да атакі у зампалітаў -- панос

Пікетаванне прэзідэнцкай Рэзідэнцыі, былога ЦК КПБ, не гледзячы на забарону улад, адбылося. Сіла ўладаў была прадэманстравана: ачапленне міліцыі пастаўлена задоўга да акцыі, невядома кім арганізаванай, бо ні адна палітычная арганізацыя не ўзяла на сябе адказнасць за распаўсюджванне ўлётак. Дэманстрацыя такога кшталту сілы прывяла толькі да павелічэння колькасці ўдзельнікаў акцыі пратэсту супраць палітычных рэпрэсій. З прыпынкаў транспарта валам валіў народ. Галоўны віноўнік пікетавання, прэзідэнт Лукашэнка, уцек роўна за 5 хвілін да пачатку акцыі, у мерсэдэсе з чорнымі вокнамі.



Але сваю прыязнасць да "усеагульнавыбранага" пікетоўшчыкі ўсё ж паспелі прадэманстраваць. А вось супрацьстаянне паміж органамі правапарадку і ўдзельнікамі пікетавання не адбылося. Кожны выконваў сваю справу: пікетоўшчыкі скандыравалі антыпрэзідэнцкія лозунгі — дарэчы, з дапамогай кісельнага тэлебачання да лозунгаў дабавіліся такія, як "Слава нацыі" і "Здраднікаў на баню" з азаронкаўскіх "шэдэўраў". Міліцыянты проста стаялі ў ачапленні, ахоўвалі пусты сквер перад будынкам. Дарэчы, трэба адзначыць спачуванне некаторых міліцыянтаў да ўдзельнікаў акцыі.

Пасля гадзіны пікетавання на праспекце Скарыны ўдзельнікі па сходніках рушылі да следчага ізалятара на вуліцы Валадарскага, дзе пікетаванне доўжылася яшчэ гадзіну.

Палітычныя вязні Ю.Хадыка і В.Сіўчык, затрыманыя ўкраінцы засталіся за кратамі. Стан здароўя абвясціўшых і трымаючых галадоўку няўхільна пагаршаецца. У сувязі з дрэнным зрокам В.Сіўчыку пагражае страта яго наогул. За што?

**С.Чырык, "БМ"**

# К российской демократии

В Беларуси установился и последовательно укрепляется авторитарный режим личной диктатуры президента Александра Лукашенко.

В его руках всецело сосредоточена вся полнота власти, включая прокоммунистический парламент, лично выстроенную им исполнительную "вертикаль", им же назначенную судебную. Национальные средства массовой информации полностью подчинены президенту и согласно обслуживают его кипучую деятельность. Независимые газеты изгнаны из страны и издаются за пределами Беларуси. Аккредитованные в Минске корреспонденты иностранных агенств систематически преследуются при исполнении ими своих профессиональных обязанностей, их корпункты подвергаются разграблению "неустановленными" лицами.

Конституция Республики Беларусь превращена в филькину грамоту и используется президентом на манер ресторанного меню — по выбору. Силовые структуры наделяются неограниченными правами и возможностями, направленными на усиление диктаторской власти и подавление свобод и прав человека. В том числе и основных прав и свобод, гарантированных Всеобщей декларацией и другими международными установлениями. Демократическая оппозиция в стране подавлена, лидеры легальных демократических партий либо эмигрируют, либо без суда содержатся в тюрьмах.

Диктатура стремится к абсолюту, для чего предпринимается ряд мер, направленных на обострение конфронтации в стране и введения чрезвычайного положения с целью устранения остатков оппозиции. Указанная тенденция особенно активизировалась после 2 апреля сего года и связывается с предстоящими выборами и предполагаемой сменой государственной власти в России. С этого же времени Республика Беларусь катастрофически утрачивает статус независимого государства, её официальная идеология стремительно милитаризуется, активно внедряется идея противостояния с Западом и НАТО, где Беларуси отводится роль передового форпоста России. Всё это происходит на фоне беспросветного, всё углубляющегося экономического кризиса.

С настоящим посланием мы обращаемся к мировому сообществу и в первую очередь к российской демократии за пониманием и поддержкой в нашем противостоянии тоталитарной диктатуре. Уважая право русского как и всякого другого народа на свободу и независимость, мы смеем претендовать на такое же право в пределах своей страны и выражаем надежду, что наше стремление разделят те, кому дороги собственные свобода, право и независимость.

**От Белорусского ПЕН-центра**
**Президент**
**Василь Быков**

